# ДЕНЬ

НАША АКЦЫЯ

**Знаёмімся з будучыняй разам!**

Падрабязнасці на стар. 15

29 студзеня 2004 года, чацвер · № 1 (173) · Кошт 500 рублёў

# Газавая блакада

## Што гэта значыць

### Для нас

**Беларускае насельніцтва пацерпіць ад газавай блакады ў апошнюю чаргу. У гэтым запэўніваюць кіраўнікі прадпрыемстваў энергетыкі вобласці.**

Насельніцтва Гарадзеншчыны спажывае не больш за 8% газа, які ідзе ў вобласць. Гэта ацяпленне, кватэрны газ і электраэнергія, якая тут выпрацоўваецца з расейскага паліва. Як паведаміў кіраўнік Гроднааблгаза, Аляксей Котаў, меры па эканоміі паліва, кшталту «вечарнага адключэння» ці ўвядзенне графікаў спажывання для насельніцтва, не разглядаюцца. Эфектыўнасць такой эканоміі была б мізэрнай.

– *У скрайнім выпадку, спачатку адключаць дробныя заводы, фабрыкі, лесапільні, затым прымусяць знізіць выпрацоўку электраэнергіі. Калі, нават, усіх адключаць ад газу, на патрэбы насельніцтва і сацыяльных аб'ектаў яго пакінуць,* – такім бачыць найгоршы сцэнар намеснік дырэктара прадпрыемства гарадзенскіх цепласетак **Віктар Кудравец.**

Пра змены камунальных коштаў, па словах Котава, таксама, пакуль што размова не вядзецца, бо невядома, па якіх коштах, урэшце рэшт, кіраўніцтва краіны дамовіцца купляць газ у Расеі.

Самым верагодным наступствам Віктар Кудравец называе тое, што ў бліжэйшы час стануць больш жорсткімі патрабаванні па своечасовай аплаце за ўсе віды энергіі. Так, у панядзелак, усе кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацыяў атрымалі дырэктыву з Менску – забяспечыць у студзені 100% плацяжоў. Пры гэтым, насельніцтва традыцыйна застаецца самым акуратным плацельшчыкам за паслугі энергетыкаў. Найбольшыя пазыкі – у арганізацыяў бюджэтнай сферы.

**Працяг тэмы на стар. 2-3**



Беларусь-Фота

**А дровы нас ніколі не падводзілі!..**

# Загінуў міліцыянт

**Адзін супрацоўнік міліцыі загінуў, другі з чэрэпнамазгавой траўмай знаходзіцца ў нейрахірургічным аддзяленні шпіталя хуткай дапамогі. Такі вынік дарожна-транспартнага здарэння, якое адбылося ўначы 27 студзеня ў Гродне на скрыжаванні вуліцаў Пучкова і Суворава.**

Каля двух гадзінаў ночы, на скрыжаванні вуліцаў Пучкова і Суворава, старэйшы лейтэнант Макарэвіч не справіўся з кіраваннем і машына BMW урэзалася ў слуп. Яго калега, капітан Котаў, які ехаў разам з ім, загінуў на месцы. Машына атрымала значныя пашкоджанні. Для таго, каб выцягнуць параненага Макарэвіча, аўтамабіль прыйшлося разрэзаць. Кіроўца быў дастаўлены ў шпіталь хуткай дапамогі.

У шпіталі хуткай дапамогі падцвердзілі факт знаходжання ў іх супрацоўніка міліцыі, які быў дастаўлены пасля дарожна-транспартнага здарэння...

– *Папярэдні дыягназ – чэрэпна-мазгавая траўма... Ён, пакуль што, не зусім адэкватна рэагуе, але гэта зразумела, бо з моманту аварыі прайшло толькі некалькі гадзінаў... Канчаткова стан ягонага здароўя можна будзе ацаніць пасля некалькіх дзён назірання,* – патлумачыў урач аддзялення нейрахірургіі шпіталя хуткай дапамогі, які пажадаў захаваць ананімнасць.

Лекары не выключаюць, што кіроўца і пасажыр маглі знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, але падцвердзіць альбо абвергнуць гэта, могуць толькі вынікі адмыслова прызначанай экспертызы.

– *Сам кіроўца сказаў, што ён не піў,* – паведаміў карэспандэнту ДНЯ начальнік Аддзела інфармацыі і грамадзкіх сувязяў УУС Гарадзенскага аблвыканкаму **Георгі Сысой**.

Макарэвіч і Котаў з'яўляюцца супрацоўнікамі Камітэта выканання пакаранняў УУС Гарадзенскага аблвыканкаму. Наша крыніца ў праваахоўчых органах паведаміла, што пры адным з міліцыянтаў у канверце знайшлі буйную суму грошай, каля 1000 даляраў ЗША.

– *Гэта не мае дачынення да справы... Ды я нічога пра грошы і не чуў,* – заяўляе Георгій Сысой.

**Андрэй ПАЧОБУТ**

### Надвор'е Дня

**29 студзеня** па Гродне воблачна, удзень -10, уначы -12, без ападкаў

**30 студзеня** вобл., удзень -4, уначы -6, ападкі

**31 студзеня** вобл., удзень -4, уначы -4, без ападкаў

**1 лютага** воблачна, удзень каля 0, уначы -2, ападкі

**2 лютага** воблачна, удзень +3, уначы +2 ападкі

**3 лютага** воблачна, удзень +6, уначы +4, ападкі

**4 лютага** воблачна, удзень +1, уначы каля 0, ападкі

# Пацярпела маладая настаўніца

**25-гадовая дзяўчына была збіта міліцэйскай машынай у Гродне ў дзве гадзіны ночы з суботы на нядзелю. Трагедыя здарылася на пешаходным пераходзе ля ўніверсама «Брэст». З чэрапна-мазгавой траўмай і пераломамі настаўніца нямецкай мовы СШ№ 15 Святлана Масляннікава была дастаўлена ў шпіталь хуткай дапамогі.**

Цяпер Святлана Масляннікава знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні шпіталя хуткай дапамогі. Ёй зрабілі некалькі аперацыяў.

– *Стан Святланы складаны. Ці пагражаюць атрыманыя пашкоджанні жыццю? Цяжка сказаць, розныя бываюць варыянты...,* – ацаніў стан здароўя дзяўчыны загадчык рэанімацыйнага аддзялення шпіталя хуткай дапамогі **Уладзімір Салаў'ёў.**

Пра абставіны здарэння ДНЮ распавёў начальнік Аддзела інфармацыі і грамадзкіх сувязяў УУС Гарадзенскага аблвыканкаму **Георгі Сысой**:

– *Супрацоўнікі ДАІ пераследавалі машыну без нумароў, якая не спынілася на іх патрабаванне... Здарэнне адбылося каля «Брэста», на пераходзе... Па маёй інфармацыі машына ўдарыла дзяўчыну крылом, магчыма, зачапіла люстэркам.*

Пасля гэтага міліцыйная машына выехала на сустрэчную паласу і стукнулася ў аўтамабіль, які стаяў побач. Гэта, па словах Георгія Сысоя, дазволіла пераследуемым, уцячы.

Святлана Масляннікава тры гады таму скончыла Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт. На працу апошніх гадоў яна выкладала ў СШ №15 нямецкую мову і адначасова вучылася ў магістратуры.

– *Вельмі адукаваная і прыстойная дзяўчына. Яна і школу з медалём скончыла і ўніверсітэт з чырвоным дыпломам... Жах, што гэта сталася менавіта з ёй,* – гаворыць яе калега па працы **Аляксандр Дзянісаў.**

На момант вёрсткі нумара газеты следчыя органы пачалі праводзіць праверку здарэння.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

## Пачынаем новы Дзень!

Прывітанне, чытач!

Мы – журналісты ДНЯ – вельмі радыя нашай сустрэчы. А выхад першага рэгулярнага нумару новай газеты – гэта, пагадзіся, даволі важкая нагода, каб пазнаёміцца бліжэй.

Па-першае, хто мы і навошта? Збольшага адказ на гэтае пытанне можна знайсці на старонках нашай газеты, аналізуючы тое, пра што мы напісалі сёння. Мы – гарадзенцы! Мы – твае суседзі, знаёмыя! Мы – твае землякі! Мы ездзім з табою ў адных тралейбусах, нашыя дзеці ходзяць у тыя ж самыя садкі і школы. Таксама як і ты, мы любім сваю краіну, балюча перажываем нашыя агульныя беды і клопаты. І нам, таксама, як і табе, хочацца, каб да беларусаў прышоў новы Дзень! Больш светлы, больш радасны, больш багаты!

Вынікам гэтага моцнага жадання і стаў ДЕНЬ сённяшні. Той День, які ты трымаеш у сваіх руках. Самым вялікім нашым імкненнем падчас працы над гэтай газетай было, каб яна з першага нумару стала патрэбнай табе, стала тваім добрым сябрам і дарадцам. Каб яна стала НАШАЙ агульнай газетай, а не толькі газетай для тых, хто яе робіць! Менавіта таму, на нашых старонках так многа розных рубрык і тэм, дзе галоўным героем, найважнейшым экспертам, асноўнай крыніцай інфармацыі з'яўляешся ты, наш чытач. Так будзе і надалей. Твае лісты, твае думкі і меркаванні, твае праблемы ды інтарэсы, наш дружа, зоймуць асноўнае месца на старонках ДНЯ.

Мы не з правымі і не з левымі – мы з людзьмі, мы са сваімі чытачамі, мы – з табою! Вось стрыжань і аснова нашай дзейнасці. Мы плануем заўсёды быць у самым цэнтры, у сапраўдным віры падзеяў, для нас не будзе «забароненых», табуіраваных тэм. Акрамя таго, мы абавязкова будзем пашырацца – павялічваць колькасць старонак, асвойваць новыя тэмы ды тэрыторыі распаўсюджвання. І ў гэтай дзейнасці, зноў такі, няма ў нас ніякай іншай апоры, акрамя цябе, наш дарагі чытач. Дык шукайма адзін аднаго, падтрымайма адзін аднаго! Толькі разам мы чагосьці вартыя! Толькі дапамагаючы адзін аднаму, мы можам дасягнуць лепшай будучыні. Той будучыні, якой мы ўсе разам сапраўды вартыя!

У добры шлях!

**Мікола Маркевіч**

# Выбар Саладухі

**Спявак Аляксандр Саладуха даслаў чыноўнікам Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта заяву з просьбай падтрымаць ягонае імкненне патрапіць у Турцыю на фінал прэстыжнага Міжнароднага конкурса «Еўрабачанне-2004». Заява, літаральна, прасякнутая жарсцю да гарадзенцаў:**

**«Я абраў Гродна і Ліду! І зусім не сумняюся ў слушнасці свайго выбару. Ніколі не забыць гарадскіх святаў і лідскага піва, калі дзесяткі тысяч людзей спявалі разам са мной мае песні.. Я веру: Гарадзеншчына прагаласуе 31 студзеня за мяне,» – амаль пераканаўча сцвердзіў спявак у заяве.**

**Галасаванне адбудзецца 31 студзеня ў часе трансляцыі на БТ адборавага тура на «Еўрабачанне-2004». Кожны зможа праз тэлефон прагаласаваць за таго з пятнадцаці беларускіх канкурсантаў, хто заслугоўвае перамогі і права прэзентаваць Беларусь на міжнародным конкурсе ў Турцыі.**

**Ці стане гэтым адзіным пераможцам Аляксандр Саладуха? Ці не вернецца спеваку бумерангам ягоная эмацыйная спроба «ўзяць» гарадзенцаў адміністрацыйным рэсурсам?**

***Нашае пытанне: «Адгукнемся ці не на просьбу Аляксандра Саладухі?»***



■ ***Людміла Кадзевіч**, начальнік Упраўлення культуры Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта:*

– Лічу просьбу Аляксандра Саладухі неэтычнай. Навошта на нас ціснуць! Ды яшчэ заяву даслаў на імя намесніка старшыні аблвыканкаму. Што гэта такое! Ёсць гледачы! Ёсць прыхільнікі! Гэта ж творчасць! Прабачце, як я магу агітаваць кагосьці, каб галасавалі за Саладуху. А можа быць, мне падабаецца іншы артыст. Мне такая ініцыятыва Саладухі вельмі не спадабалася. Хто мне найбольш спадабаецца, за таго я і прагаласую. Буду галасаваць не як начальнік Упраўлення культуры, а як асоба, як жанчына. Гэта мая пазіцыя.



■ ***Уладзімір Амелька**, начальнік Упраўлення інфармацыі Гарадзенскага абласнога выканаўчага камітэта:*

Ну, а чаму ж не. Аляксандр Саладуха – вядомы чалавек. Ён, безумоўна, заслугоўвае падтрымкі гарадзенцаў. Прымаць удзел у галасаванні я не буду, навошта мне. Але, лічу, што Саладухаварты падтрымкі. Супраць яго я нічога не маю.

***«А вы прагаласуеце за Аляксандра Саладуху?»***




**Вынікі інтэрнет-галасавання на http://pahonia.promedia.by**

**Пытанне наступнага тыдня:**

***Ці беражэ нас наша міліцыя?***

Чакаем Вашых меркаванняў у пятніцу 30 студзеня з 18 да 19 гадзінаў па тэлефоне:

**72-29-96**



*Праз лінзы Алеся ЧОБАТА*

# Халодная вайна

Расея – гэта вялікая дзяржава. Таму, нават, яе маленькія прэзідэнты гавораць і робяць вялікія глупствы. На так званай постсавецкай прасторы, у Расеі засталася адна дзяржава, якая не мела да Расеі злосці і парахункаў – Рэспубліка Беларусь. Але гэтую прыстойнасць адабралі на Крамлі як слабасць, і, менавіта, ёй, Рэспубліцы Беларусь, «господин» Пуцін, праз сваіх замочаных у сарціры газавых нуварышаў, збіраецца адключыць газ.

У Расеі, на ўсёй постсавецкай прасторы, была толькі адна краіна, з якой рускія не мелі памежных клопатаў, адкуль не беглі бежанцы, якая не мела да Расеі тэрытарыяльных жаданняў, якая брала смешныя грошы за транзіт і жыццёва неабходныя для Расеі ваенныя базы. Гэта была Рэспубліка Беларусь. Сёння такой краіны больш няма – ёсць іншая краіна, бо калі зімой табе ці то адключаюць, ці то пагражаюць адключыць газ, гэта азначае, што табе абвесцілі халодную вайну. А на вайне як на вайне...

Расея, пакуль што, вялікая дзяржава, і беларусам не будзе сорамна прайграць ёй вайну. Але сёння Расея не можа выйграць вайну з беларусамі, бо калі ў халоднай вайне беларусы толькі замерзнуць, а ім гэта не ў першы раз і не ў першай вайне, дык зробяць сабе перапынак дзесятак фабрык у Менску – у Крамлі ведаюць самі, якіх фабрык – і праз 3-6 месяцаў руская армія застанецца без кароткатрывалай і хуткаломнай оптыкі з электронікай іператворыцца ў купу жалеза. Антарктыда без ільдоў некалі была, а Расея без арміі, гэта як Польшча без касцёла. Koniec swiata. То значыць, канец вялікай Расеі – і дрaка губернатараў.

Маем справу з нейкім Адольфам Алёйзавічам і яго газавымі гестапаўцамі пры сваіх газавых душагубках. Цяпер кожную зіму беларусаў чакае Халодная Вайна. І таму, варта заняцца яе галоўнымі маразільнікамі:

1. Калі прэзідэнт Пуцін давёў да халоднай вайны з беларусамі, то беларусы яму таго не забудуць – як Адольфу Алёйзавічу.

2. Газавых гестапаўцаў скласці ў адну калоду на падабенства багдадскай – надрукаваць з фотакарткамі, прозвішчамі і асабістымі прыкметамі. Ды раздаць усім беларусам, «чтобы помнили...»

3. За транзіт наземны, падземны, чыгуначны і паветраны час плаціць – і ўсе «недоімкі» з 1 студзеня 1992 года таксама.

4. Ваенныя базы з (...) і (...) трэба прыняць. Несалідна самай вялікай дзяржаве свету не знайсці кавалак тундры пад толькі дзве еўрапейскія базы.

З той газавой трубой не Расея нашкодзіць беларусам – мы проста перацерпім, а не адступім – але самі рускія лішні раз прынізяць сябе. «У нас есть Пушкин, у нас есть Большой театр, у нас есть ядерное оружие».Так, шчаслівы шызафрэнік у клініцы пералічвае свае хваробы, спадзяецца, што яго лепш лячыць будуць, усе капрызы спаўняць.

А беларусы ў гульні не гуляюць, проста самі для сябе жывуць. І чужыя гульні іх не абыходзяць. Беларусам на чужыя гульні напляваць ■

## Лічба дня

**13 202**

«Запарожцаў» зарэгістравана на Гарадзеншчыне. «Запарожац» – гэта самы малы аўтамабіль, які прадукаваўся ў СССР. Па папулярнасці гэтая марка саступае «Жыгулям» і «Масквічу». Агульная колькасць аўтамабіляў у вобласці – 199340.





## А ў гэты час у Гродне...

**... 5 год назад...**

«Подонки, виновные в серии убийств и вооруженных нападений, в районе БЛК – Строителей до сих пор не пойманы. Город полнится самыми невероятными слухами и предположениями. «Их уже давно поймали» – говорят одни. «А правда ли, что вчера убили ещё двоих, а всего должны убить человек сорок?» – с ужасом спрашивают другие...»

**Биржа информации, 28 студзеня – 3 лютага 1999**

**...10 год назад...**

«Адразу ж пасля калядаў гарадзенскі завод «Радыёприбор» перайшоў на чатырохдзённы рэжым працы. Але ці выратуе завадчан такі крок? ...чатырохдзёнка – не выйсце, бо заводу хранічна не хапае камплектуючых...У той жа час сумежныя прадпрыемствы Расеі маюць запаску перад гарадзенцамі ў некалькі соцен мільёнаў рублёў»

**ПАГОНЯ, 28 студзеня – 3 лютага 1994**

**...20 год назад...**

«Отдел по труду Гродненского облисполкома, его уполномоченные при райисполкомах... проводят приём заявлений от семей, желающих переселиться в колхозы и совхозы Амурской области. Переселенцам выдаётся единовременное пособие 200 рублей на главу семьи и 75 рублей на каждого члена семьи... Погрузка эшелона будет проводится на станции Гродно 20 марта, на станции Лида 21 марта 1984 года».

**Сельская навіна, 4 лютага 1984**

**...30 год назад...**

«...В Путришках уже третий день не торгуют хлебом, и такой перерыв не впервые. Нет в продаже свежей молочной продукции. Полки стоят пустые, а соль, сахарный песок не выложены...»

**Гродзенская праўда, 29 студзеня 1974**

**...40 год назад...**

«...Кандидатуры Г.М.Маленкова и В.М. Молотова от души одобряет и поддерживает начальник охраны фабрики тов.Кумов. Он предлагает выдвинуть кандидатом в депутаты Совета Национальностей Верховного Совета СССР по Гродненскому избирательному округу №64 первого секретаря ЦК КПСС Никиту Сергеевича Хрущёва...

**Гродзенская праўда, 2 лютага 1964**

## Самі сказалі...



Беларусь-Фота

*«Трэба ж нейкім чынам уплываць на сітуацыю ў краіне, трэба паказаць альтэрнатыву ўладзе, у тым ліку, і прэзідэнту. Бо адна з нашых праблемаў – пытанне: «Калі не Лукашэнка, дык хто?». «Мае калегі вызначылі мяне на гэтую ролю,»* – сказаў пра свае прэзідэнцкія перспектывы гарадзенскі генерал **Валеры Фралоў.**



144 мільярды рублёў далі ў мінулым годзе ў бюджэт краіны гарадзенскія мытнікі. Гэта чацьвёртае месца сярод іншых мытняў краіны. *«Патэнцыял ваш вялікі,»* – сказаў намеснік старшыні дзяржаўнага мытнага камітэту **Уладзімір Гошын** і парэкамендаваў гарадзенцам напружыцца і ў новым годзе «абставіць» па даходах іншыя мытні Беларусі.

# Газавая блакада

## Што гэта значыць


Фота ByMedia.net

Ад працы «Азоту» залежаць каля 10 тысячаў гарадзенскіх сем'яў

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

### Для «Азота»

Для двух прадпрыемстваў вобласці – гарадзенскага «Азота» і краснасельскага цэментнага, газавая блакада стала бы пагібеллю.

На ААТ «Гродна – Азот» прыходзіцца каля 10% рэспубліканскага і 50% абласнога спажывання газу. Газ тут з'яўляецца асноўнай сыравінай і выкарыстоўваецца амаль ва ўсіх тэхналагічных працэсах – пры вытворчасці аміяка, карбаміда і капралактама. Нават, 10 печаў для спальвання адходаў спажываюць у гадзіну па тысячы кубаметраў газа кожная.

Ад працы прадпрыемства залежаць каля 10 тысячаў гарадзенскіх сем'яў – работнікі прадпрыемства і падрадных арганізацыяў.

На панядзелкавай нарадзе генеральны дырэктар «Азота» Валеры Лангоў абвясціў адміністрацыі прадпрыемства, што стабільныя пастаўкі газу забяспечаны толькі да 29 студзеня. Адміністрацыя «Азота» не сумняецца, што пастаўкі газа будуць стабілізаваныя, таму, зараз самае галоўнае пытанне –цэны, на якія кіраўніцтва Беларусі, урэшце рэшт, дамовіцца з расейскімі пастаўшчыкамі. Зараз асноўныя передумовы рэнтабельнасці «Азота» – ільготныя газавыя тарыфы і спрыяльныя кошты на прадукцыю прадпрыемства. Падвышэнне коштаў на газ з узроўня 46 да 60 даляраў за тысячу кубаметраў можа зрабіць прадпрыемства стратным. Акрамя таго, газавыя праблемы супадуць з традыцыйна цяжкім перыядам для «Азота» – сакавік-травень, калі ідзе адгрузка ўгнаенняў для калгасаў.

Спецыялісты прадпрыемства прадказваюць, што ў гэтым годзе падвышэння заробкаў на «Азоце» не будзе, таму што не прадбачыцца роста паказчыкаў рэнтабельнасці і аб'ёму вытворчасці. Са жніўня мінулага года, паводле загада дырэктара, працягваюцца скарачэнні штата.

### Гадзіна Х

Быць ці не газавай блакады Беларусі? Адказ на гэтае пытанне мы даведаемся яшчэ да канца тыдня. Да 29 студзеня расейскія прыватныя пастаўшчыкі яшчэ дазволілі Беларусі адбіраць паліва, якое ідзе па газаправоду. Блакада краіны пачнецца з 30 студзеня, у выпадку, калі кантракты не будуць заключаныя. Яшчэ максімум месяц, калі «расцягнуць, зэканоміць, не датапіць», Беларусь зможа карыстацца са сваіх стратэгічных запасаў: гэта 800 млн. кубаметраў газу ў сховішчах Берасцейскай і Магілёўскай абласцей і 400 тысяч тон мазуту для ацяплення. Калі за гэты час ізноў «не дамовяцца», што нас чакае – невядома. Але гэтую верагоднасць энергетыкі вобласці адмаўляюць:

– *Дамовяцца! Расея даціснe – і нашыя пагодзяцца на ўсе ўмовы!* – мяркуе **Кудравец**. -*За ўсё трэба плаціць і выконваць свае абяцанні! Паабяцалі стварыць СП – трэба стварыць! Паабяцалі плаціць за газ – трэба плаціць!*

**Ліза МАНЯК**

# Як гэта было ў Літве

**Узгадвае рэдактар аддзела палітыкі газеты «Kauno Diena» Стасіс Ёкубайціс, Коўна:**

***«...Энергетычную блакаду Літва перажыла ў 1990 годзе. Тады былі адключаны не толькі газ, але і электрычнасць і пастаўкі нафты. У шматкватэрных дамах людзі пачалі ставіць буржуйкі, тапілі іх дровамі і выводзілі дымавыя трубы ў вокны. Завод «Цэнтраліт», які прадукаваў вырабы з чыгуну, вельмі хутка пачаў вырабляць гэтыя буржуйкі. Адразу знік бензін, з'явіліся «спекулянты», якія прывозілі яго з Расеі. Гэта быў вельмі цяжкі час, але тады нам дапамагаў увесь свет...***

***Літве адключалі газ яшчэ і праз тры гады. Але гэтым разам насельніцтва амаль не адчула крызісу. Тады ўпершыню была зацверджаная норма ацяплення: у кватэрах мусіла быць не халадней за 14 градусаў. Толькі ў гэтым годзе норма была змененая: цяпер ніжняя планка 18 градусаў...***

***Адключэнне было інструментам не толькі эканамічнага, але і палітычнага ціску: «Газпрам» хацеў набыць прадпрыемствы нафтаапрацоўкі і трубаправоды. У Літве ўзнікла некалькі праектаў альтэрнатывы – планавалі будаваць газаправод з Нарвегіі, купляць мазут у Паўднёвай Амерыцы, – але па коштах гэта аказалася непрымальным... Мы ўжо забылі пра гэтыя праблемы і амаль не баімся іх вяртання: на сённяшні дзень альтэрнатывы расейскаму газу няма, але мы плацім за яго і не хвалюемся пра гэта...»***

# Гандаль працягваецца...

**На момант падрыхтоўкі гэтага артыкула, перамовы пра пастаўкі расейскага газу на Беларусь, плёну так і не прынеслі. Генеральны дырэктар «Белтрансгазу» Пётр Пётух ды іншыя высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі не здолелі пераканаць кіраўніка праўлення «Газпрама» Аляксея Мілера, за плячыма якога, відавочна, стаіць Крэмль, аднавіць пастаўкі прыроднага газа ў леташнім рэжыме.**

Крыніца ў «Белтрансгазе» паведаміла ДНЮ, што цяпер беларускі бок пагаджаецца купляць газ па 50 даляраў; за гэта афіцыйны Менск хоча дабіцца падвышэння коштаў транзіту па беларускай тэрыторыі з разліку 1,09 даляра за пастаўку 1 тысячы кубоў газу на 100 кіламетраў супраць цяперашніх 0,55 даляра; «Газпрам» настойвае на стаўцы 0,73 даляра ЗША.

*«Сёння няма падставаў патрабаваць ад Беларусі набываць газ па тых самых коштах, што і Украіна, таму што беларуская труба карацейшая за ўкраінскую на 800 кіламетраў,»* – падкрэсліла крыніца з «Белтрансгазу».

Калі «Газпрам» пагадзіцца прадаваць Беларусі газ па цане 45 даляраў, тады беларускі бок згодны панізіць транзітную стаўку да 0,73 даляра.

Увязванне паставак газу з акцыянаваннем «Белтрангазу» не мае пад сабой падставы, бо, па словах крыніцы, «у міждзяржаўным пагадненні не запісана: калі не будзе створана СП, то пастаўкі газа на Беларусь спыняцца».

*«Цяпер сітуацыя на Беларусі такая: у нас няма дамовы на пастаўку газа, у «Газпрама» – дамовы на яго транзіт,»* – падсумавала крыніца.

Канцэрн «Белтопгаз» не распрацоўваў планы забеспячэння спажыўцоў газам на выпадак перакрыцця «газавага краніка». Пра гэта ДНЮ 27 студзеня паведаміў намеснік генеральнага дырэктара канцэрна «Белтопгаз» **Уладзімір Каплуноў.**

*«Мы маем, узгодненыя з аблвыканкамамі, графікі пераходу прадпрыемстваў на рэзервовыя віды паліва. Напрыклад, прадпрыемствы, што маюць мазутныя гаспадаркі – у выпадку пахаладання ці рэзкага абмежавання ў падачы газу – пераходзяць на мазут. Аднак, гэта адбываецца звычайна з-за пахаладання, нават, не па прычыне абмежавання газу – проста спажыванне павялічваецца і не заўсёды газу хапае. Такія пытанні, мы, ўвогуле, не разглядалі – што нам могуць перакрыць газавы кранік. Усе нашыя планы падрыхтаваныя на выпадак рэзкага пахаладання і аварыяў на газаправодзе. Але такога, каб нам перакрывалі краны – не будзе!»* – лічыць Уладзімір Каплуноў.

**Глеб ХМЯЛЬНІЦКІ**

# Кірыла Халопік: «Альтэрнатывы расейскай манаполіі няма»

**Успплеск «газавай праблемы» між Расеяй і Беларуссю мае выключна эканамічны характар. Так лічыць кіраўнік дэпутацкай групы Палаты прадстаўнікоў – «Садзейнічанне эканамічным рэформам» Кірыла Халопік:**

– У эканамічным плане абвастрэнне «газавай праблемы», я мяркую, завершыцца цягам максімум бліжэйшых двух-трох тыдняў. Будзе падпісаны кантракт, які стане падмуркам далейшых шматгадовых адносінаў між Беларуссю і Расеяй, і ніколі канфліктаў больш не ўзнікне. Расея для нас – манапольны пастаўшчык газу, і ніякіх альтэрнатываў няма і быць не можа. Татальны пераход на іншыя віды паліва выключаны. І Расеі нявыгадна губляць такога спажыўца газу, бо, у любым выпадку, мы будзем купляць яго з прыбыткам для Масквы.

Расейцы проста выкарыстоўваюць момант для ціску на Беларусь дзеля заключэння найбольш выгаднага кантракту. Пачаўся новы 2004 год, прайшоў амаль цэлы месяц, кантракт дагэтуль не падпісаны... Для Расеі абсалютна незразумела: ці атрымае яна, увогуле, аплату за спажыты газ, – таму і ўжыла падобны прыём. Гэта натуральна: вы карыстаецеся электраэнергіяй у сваёй кватэры, не адмаўляецеся падпісваць дамову на пастаўку электраэнергіі, вядзеце гандаль. Месяц можаце гандлявацца з энергетычным манапалістам. Але праз месяц, калі дамову вы не падпісваеце, кватэру адключаюць ад электраэнергіі – незалежна ад тэмпературы: хоць +20 градусаў, хоць -20. І ніхто не будзе абурацца, што энергію адключылі з-за палітычных прычынаў.

Ідзе звычайны гандаль. Безумоўна, мы гатовыя пацярпець, скажам, той месяц без газу, але выгандляваць найбольш прыдатныя для Беларусі ўмовы на многія гады наперад. У дадзеным выпадку наш прэзідэнт мае рацыю: займае цвёрдую пазіцыю, ведаючы, што лепш у нечым прайграць цяпер (5-10 дзён абмежавання па спажыванню газу), але выйграць на перспектыву і даць добрыя ўмовы наступным пакаленням. Абсалютна слушная палітыка.

**Апрацаваў Рыгор БУЯН**

## Апытанне дня

### Газ адключылі. Што рабіць будзем?



**Сяргей Барысевіч:**

– Калі не паспеюць дамовіцца, будзе халадно. Што тут яшчэ рабіць? Браць палкі і выходзіць да будынка на плошчы Леніна. Пакуль будзе ва ўладзе сённяшні чалавек, толку нідзе не будзе. Беларусь і так ужо ніжэй узроўня апусцілася. Далей няма куды...



**Валянціна Окунева, бібліятэкарка:**

– Усё будзе добра! Для мяне гэтае пытанне не вельмі актуальнае, бо я расіянка. Пойдуць беларусы на саступкі, пойдуць і расіяне. Пытанне ў любым выпадку вырашыцца. Без газа не застанецеся. Проста будзеце за яго трошкі больш плаціць.



**Лідзія Лобач, пенсіянерка:**

– Ну што вы, гэта проста немагчыма! Па тэлевізару чула, што ўсё дамоўлена. Атрымоўваецца, што мы будзем без цяпла?! Лепш плаціць даражэй за паслугі, якія нам прадстаўляюцца, калі яны патрабуюць, хоць па рынкавых цэнах.



**Аляксандр, 27 гадоў, беспрацоўны:**

– Не ведаю, я нічога не чуў... Знойдзем печку. Я не маю жадання вырашаць сусветныя праблемы. У мяне сваіх хапае. Не загінем. На Украіне не адключылі і нас не адключаць.



**Валеры Курыла, аўтаслесар:**

– У вёсцы ёсць печка, калі трэба туды пераеду. Трэба будзе грэцца любымі сродкамі. У кватэру буржуйку не паставіш, не першабытны ж час.



**Дар'я Табратава, Ганна Хачко, 15 гадоў:**

– Нам здаецца, што ўсё гэта глупства. Мы ж Расеі таксама «бабкі» нейкія плацім. Калі хочуць Лукашэнку павучыць, можа і правільна робяць. Але ж людзі пакутуюць. Дойдзем да таго, што ўсе разам выйдзем на вуліцу і зробім агульнае вогнішча. Мітынгі, дэманстрацыі і ўсё такое пачнецца ў гарадах.

**Апытвалі**
**Надзея ЕФІМЕНКА**
**Надзея САЛЫГА**

## Ненадзейны цягнік

**Бесперасадкавы цягнік «Гродна-Беласток», які быў уведзены ў сярэдзіне снежня, пакуль працягне курсаваць без зменаў. Польскі бок абверг інфармацыю аб нібыта запланаванай з 2 лютага ліквідацыі двух рэйсаў гэтага цягніка.**

*– Аніякага афіцыйнага рашэння наконт ліквідацыі гэтых рэйсаў няма,* – паведаміў ДНЮ дырэктар беластоцкага ўчастку польскай чыгункі (РКР) **Чэслаў Суліма.**

Аднак, Чэслаў Суліма не выключае, што з Варшавы можа прыйсці распараджэнне аб ліквідацыі гэтых рэйсаў. Курсаванне бесперасадкавага цягніка «Гродна-Беласток», які адпраўляецца з Гродна ў 2.30 і 19.50 выклікала шэраг крытычных публікацый у польскай прэсе. Наракалі таксама пасажыры з Польшчы. Бо, з-за мытнага дагляду, які часам займае цэлую гадзіну, яны рэгулярна спазняліся на працу.

**Ігар ГАНДЛЕЎСКІ**

# «Без базара!»

**Амаль на дзвесце гандлёвых месцаў зменшыцца з 1 лютага міні-рынак па вуліцы Паліграфістаў. Прадпрымальнікам, большасць з якіх гандлюе таннай вопраткай і гаспадарчай дробяззю, прапанавана шукаць месца на іншых рынках горада. Аднак, частка з іх, у выніку скарачэння рынка, па просту спыніць працу.**

Ліквідаваныя будуць палатачныя гандлёвыя месцы, што размешчаныя абапал вуліцы Паліграфістаў. Гарадскія чыноўнікі, якія прынялі рашэнне аб ліквідацыі папулярнага палатачнага рынка, спасылаюцца на архітэктурны план горада і прэтэнзіі пажарнай службы.

*– Мы яшчэ ў мінулым годзе вырашылі ліквідаваць гандаль у палатках,* – тлумачыць намеснік старшыні гарвыканкама **Аляксандр Сіўцоў.** – *Мы робім з цэнтра горада вялікі базар – такога няма ў іншых гарадах. Паводле архітэктурнага плана горада, палатак на Паліграфістаў быць не павінна. Акрамя таго, і ў пажарных былі пытанні да супрацьпажарнай бяспекі вуліцы.*

Кожны палатачны гандляр з Паліграфістаў плаціць у гарадскую скарбонку штомесяц каля 200 даляраў. У выніку ліквідацыі палатачнай часткі рынка горад страціць ад 20 да 40 тысячаў даляраў прыбытку ў месяц.

Як выхад з сітуацыі, Аляксандр Сіўцоў прапаноўвае прадпрымальнікам ісці на іншыя рынкі горада: *«Неўзабаве, паміж вуліцамі Антонава і Паліграфістаў пачне працаваць крыты рынак. Там ёсць каля 70 месцаў, заканчваецца будаўніцтва крамаў. Не кажу ўжо пра «Карону» – калі ласка, працуйце».*

Самі прадпрымальнікі перакананыя, што для іх няма альтэрнатывы міні-рынку.

**Алена Мельнікава,** сама гадуе трох дзетак, даглядае за маці-інвалідам:

*– У мяне самы дарагі тавар каштуе 1,5-2 тысячы рублёў. Гандлюю ніткамі, шчоткамі, па прынцыпе тысячы дробязей. У мяне тавар для небагатых, і, каб зарабіць, я павінна прадаваць яго вельмі шмат. На «Паўднёвым» да мяне па просту ніхто не падыдзе. А «Карону» я не пацягну – страшэнна дорага.*

**Дзмітры Кузняцоў:**

*– Сітуацыя для мяне жахлівая. Ламаю галаву, ня ведаю, што рабіць. Хутчэй за ўсё, давядзецца аддаць тавар на рэалізацыю за палову цаны.*

Патавае становішча на палатачным рынку па вуліцы Паліграфістаў дэманструе чарговае сутыкненне інтарэсаў дробнага прадпрымальніка і гарадской улады. Гарадзенцы яшчэ памятаюць тыя часы, калі на Паліграфістаў не было ні ралетаў, ні палатак, ні прыгожай пліткі з ліхтарамі. Нецяжка ўявіць: як толькі ўлады вызваляць месца ад «неархітэктурных» палатак, там адразу ж з'явяцца гандляры, як кажуць у народзе, «пад чорным сцягам».

**Алеся МАКОЎСКАЯ**

## Цяпер кіруем мы

**Кіравацьь Радай Еўрарэгіёна «Нёман» у гэтым годзе будзе намеснік старшыні Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімір Малец. Перадача гарадзенцам паўнамоцтваў адбылася днямі ў польскім Пуньску. У мінулым годзе Еўрарэгіёнам кіравалі літоўцы.**

*– Гэта азначае, што сёлета на Гродна ўскладваецца абавязак праўядзення на Беларусі паседжанняў Рады Еўрарэгіёну,* – патлумачыла ДНЮ **Агнешка Васілеўска,** супрацоўніца Бюро Еўрарэгіёна «Нёман».

Па словах Агнешкі Васілеўскай, Еўрарэгіён не мае супольнага бюджэта, таму Гарадзеншчына, якая старшынюе ў Радзе, панясе ў бягучым годзе найбольшыя фінансавыя выдаткі.

Пад патранатам Еўрарэгіёна плануецца сплаў на байдарках па Аўгустоўскім канале і жаночыя баскетбольныя гульні камандаў Беластока, Алітуса, Гродна і Менску.

**І.П.**

# Польшча стане раскошай

## Міністэрства інфармацыі «глушыць» TVP 1

**Магчымасці глядзець Першую праграму Польскага тэлебачання TVP 1 будуць пазбаўленыя карыстальнікі калектыўных антэнаў. Паводле загада Міністэрства інфармацыі, выдадзенага напярэдадні Новага года, папулярная сярод гарадзенцаў TVP 1 выведзена з сацыяльнага пакета праграмаў тэлебачання, абавязковых для трансляцыі. Цяпер за прыём польскага тэлеканала трэба будзе плаціць дадаткова.**

### Міністэрства думае пра Беларусь

*– Міністэрствам прынята адмысловае рашэнне аб усталяванні, гэтак званага, сацыяльнага пакета тэлепраграмаў, куды ўвайшла, перад усім, айчынная прадукцыя,* – патлумачыла начальнік аддзела аналіза дзейнасці электронных СМІ Міністэрства інфармацыі **Ніна Раеўская.**

Паводле загаду № 208 Міністэрства інфармацыі ад 30 снежня 2003 года сацыяльны пакет на Гарадзеншчыне складаюць БТ, АНТ, ЛАД, РТР. Трансляваць альбо забяспечваць прыём іншых праграмаў аператар можа толькі ў адпаведнасці з адмыслова заключанымі дамовамі з тымі, хто валодае правам на праграмы (У выпадку з TVP 1 – гэта будзе Акцыянернае таварыства «Польскае тэлебачэнне») і карыстальнікам. За атрыманне дадатковых каналаў будзе брацца дадатковая аплата.

*– Мы чакалі адмысловага рашэння па Гарадзенскай і Брэсцкай абласцях, там, дзе шмат польскага насельніцтва і дзе падобнае адключэнне можа быць неадназначна ўспрынята, аднак, яно так і не прынята. І хоць на сённяшні дзень мы нікога не адключылі, аднак недалёкі той час, калі мы вымушаны будзем гэта зрабіць, інакш, у нас адбяруць ліцэнзію. Хаця, шчыра кажучы, я не ўяўляю сабе, як мы будзем выконваць падобны загад,* – гаворыць вядучы інжынер ААТ «Гарант» **Мікалай Данілаў.**

Гэтых сумненняў не падзяляюць у Міністэрстве Інфармацыі.

*– Ніякіх праблемаў быць не павінна. У вас на Гарадзеншчыне цвік утыркні замест антэны і дзве Польшчы будуць ісці... Радыёпраграмы ў вас польскія прымаюцца... Таму я ніякай праблемы не бачу,* – гаворыць Ніна Раеўская.



Гарадзенка Яўгенія Янчэня любіць глядзець серыял «Moda na sukces» па TVP 1

Фота Юліі Дарашкевіч

**У шматкватэрных дамах калектыўная антэна найбольш танны сродак атрымання традыцыйнага набору тэлевізійных праграмаў. Сёння ў Гродне праз калектыўную антэну можна прымаць БТ, АНТ, ЛАД, РТР і TVP 1. Найбуйнейшай гарадзенскай фірмай, якая абслугоўвае калектыўныя антэны з'яўляецца ААТ «Гарадзенскі абласны тэхнагандлёвы цэнтр «Гарант». Ен абслугоўвае каля 70 тысяч абанентаў, з іх 8 тысяч атрымлівае – за адмысловую аплату – гэтак званы «дадатковы пакет» тэлепраграмаў. На падставе загада Міністэрства інфармацыі, ужо заўтра, з экранаў больш, чым 60 тысячаў тэлевізараў, можа знікнуць папулярная сярод гарадзенцаў TVP 1. Тэхнічна гэта выканаць дастаткова проста. На калектыўную антэну ставіцца спецыяльны прыбор – табулятар – і прыём «неадпаведнай» праграмы спыняецца.**

### Рэзананс

Па словах адной з супрацоўніц «Гаранта», якая пажадала захаваць сваю ананімнасць, перспектыва адключэння польскай праграмы TVP 1 вельмі хвалюе гарадзенцаў.

*– З моманту, калі з'явіўся тэлетэкст з інфармацыяй пра перавод «Польшчы» ў дадатковы пакет, да нас ужо неаднойчы тэлефанавалі абураныя людзі. Нават сварыліся,* – сцвярджае яна.

Паводле яе словаў, адключэнне TVP 1 павінна было адбыцца ўжо 19 студзеня, але, пакуль што, кіраўніцтва «Гаранта» сабатуе выкананне непапулярнага загада і праводзіць інтэнсіўныя кансультацыі з мясцовай уладай.

*– Я спадзяюся, што ўсё ж такі ўлада на гэта не пойдзе. У Гродне жыве каля 70 тысячаў палякаў. Для нас непрымальная сітуацыя, калі ставяцца абмежаванні на польскія праграмы. Зараз мы разглядаем магчымасць звароту ў Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальных меншасцяў,* – каментуе сітуацыю намеснік старшыні Саюза палякаў на Беларусі **Юзаф Пажэцкі.**

Гарадзенскія ўлады робяць выгляд, што нічога не адбываецца.

*– Гэта заўчасная размова. Сёння на спажыўцах гэтае рашэнне ніяк не адбілася... Я думаю, што калі Міністэрства інфармацыі прыняла рашэнне, то тычыцца яно, перш за ўсё, аператараў,* – гаворыць начальнік аддзела інфармацыі Гарадзенскага гарвыканкама **Сяргей Дубавец.**

Для аматараў польскай праграмы ёсць два выйсця з гэтай сітуацыі: першае – купіць дадатковы пакет тэлепраграмаў, у склад якіх уваходзіць TVP 1, другое – уласную антэну. Як бачым, у абодвух выпадках прыйдзецца плаціць за тое, што гарадзенцы прызвычаіліся атрымліваць «амаль задарма».

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

**У ААТ «Гарант» устаноўка дадатковага пакета тэлепраграмаў, куды цяпер уваходзіць TVP 1, каштуе – 20 тысячаў рублёў. Потым карыстальнік штомесяц уносіць абанентскую плату ў памеры 4200 рублёў. Фірма дае гарантыю добрай якасці прыёму праграмы.**

**«Комнатная» антэна ДМВ «Дэльта» ў Гандлёвым доме «Нёман» каштуе 16480 рублёў. Па словах гандляркі, прымае яна выключна БТ, АНТ і ЛАД. У краме «Далягляд» антэна МВ+ДМВ «Дэльта» каштуе 22870 рублёў. Гэтая антэна «тэарэтычна ў стане» прымаць усе беларускія каналы і Польшчу. Але якасць прыёму залежыць ад месца знаходжання кватэры.**

# Нёман, якога мы страцілі

## *Старыя Васілішкі развіталіся са славутым земляком*

**Увечары 23 студзеня ў касцёле святога Пятра ў Старых Васілішках адбылася памінальная імша па славутым польскім спеваку і кампазітары Чэславу Нёману. Амаль уся вёска прыйшла развітацца са сваім земляком. Для ўсяго свету Чэслаў Нёман – гэта рок-бунтар, песнямі якога захапляюцца мільёны людзей, адзіны выканаўца з Польскай Народнай Рэспублікі, які выступаў разам са Сціві Уондэрам, кампазітар, чые песні спявала Марлен Дзітрых... Голас пакалення 60-х... Тут, на малой айчыне, яго памятаюць як сваволнага падлетка, які дрэнна вучыўся, не хацеў уступаць у піянеры, спяваў у касцельным хоры і заўжды хадзіў сваім уласным шляхам.**



***Чэслаў Нёман (у цэнтры) з землякамі ля касцёла Святога Пятра ў Старых Васілішках. Кастрычнік 1979 года***

### Дзяцінства ў СССР

Чэслаў Выджыцкі, якога ведаюць пад псеўданімам Нёман, нарадзіўся 16 лютага 1939 года ў Старых Васілішках, што ў Шчучынскім раёне, у заможнай, па тутэйшым меркам, сям'і. Яго бацька Антон Выджыцкі не толькі меў свой кавалак зямлі, але і быў выдатным майстрам-самавукам, які без праблем мог адрамантаваць гадзіннік ці сапсаваны патэфон, падбіць боты... Акрамя таго, Антон Выджыцкі захапляўся музыкай і, па ўспамінах вяскоўцаў, меў выдатны голас.

– Антон і арганістам пэўны час у касцёле быў і ў мясцовым духавым аркестры граў... У хаце былі фартэпіяна і патэфон..., – успамінае стрыечная сястра Чэслава Нёмана **Тэрэза Аксіловіч**, якая і сёння жыве ў Старых Васілішках. – Памятаю, што мы слухалі кружэлкі з польскай музыкай, а ён яшчэ зусім маленькі быў і гэтак нечакана для ўсіх сказаў: «Пачакай матуля, калісьці і ты мае песні слухаць будзеш».

Цяжкія гады Другой сусветнай вайны, пасляваенная выпальванне польскай партызанкі і наступную калектывізацыю, сям'я Выджыцкіх перажыла, дзякуючы залатым рукам бацькі Антона. Майстры пры кожнай уладзе патрэбныя...

– Нягледзячы на розныя непрыемнасці, дзяцінства я ўспамінаю з настальгіяй... Гэта быў рай на зямлі, – сказаў Чэслаў Нёман у адным з інтэрв'ю.

Але савецкую ўладу Выджыцкія так ніколі і не палюбілі. Усе, хто памятаюць гэтую сям'ю, адзначаюць яе высокую рэлігійнасць. Бацька быў арганістам, Чэслаў і яго сястра Ядзвіга спявалі ў касцельным хоры. На пачатку 50-х новая ўлада зачыніла касцёл у Васілішках. Рэлігія ў СССР была «опіям для народа»...

### У «расейскай школе»

– Чэслаў абсалютна не цікавіўся вучобай... Сядзеў у куце і здавалася, што ён адсюль вельмі далёка. Я яму шмат заўвагаў рабіла... Але ўжо тады было відавочна, што ён вельмі таленавіты хлопец і калі ён чагосьці хацеў, гэта ў яго атрымлівалася на выдатна... Хаця, ніхто, канешне, не спадзяваўся, што ён зойдзе так далёка, – гаворыць настаўніца Чэслава Нёмана і родная сястра яго першай жонкі – **Яніна Паўлюкевіч**. У Васілішкаўскай сярэдняй школе па сённяшні дзень захоўваецца журнал з адзнакамі Чэслава Выджыцкага за 8-мы клас. Па ўсіх прадметах «тройкі», толькі па геаграфіі – «чатыры».

Ужо ў школе Чэслаў Выджыцкі звяртаў на сябе ўвагу аднагодкаў.

– У яго быў фотаапарат і ён заўжды займаўся нечым такім, што мне, малодшаму, здавалася надзвычай цікавым, – успамінае жыхар Старых Васілішак **Антон Маркевіч**. Часам, гэта былі рэчы небяспечныя. Неяк падлеткі знайшлі снарад. Пад кіраўніцтвам Чэслава яны распалілі вогнішча і кінулі знаходку туды. Адбыўся выбух, на шчасце, ніхто не пацярпеў.

Тут, у савецкай школе, распачалося ці не першае супрацьстаянне будучага рок-бунтара з уладай. У Заходняй Беларусі пачалася інтэнсіўная кампанія па стварэнню піянерскіх дружынаў. Дайшлі новыя веянні і да Васілішкаўскай школы, але чырвоныя хусткі і значкі з дзядуляй Леніным не цікавілі Чэслава.

– Я, нават, у савецкай школе не быў ані піянерам, ані камсамольцам, – скажа ён потым у адным з інтэрв'ю.

### Ленін і музыка...

– Мне ягоныя песні, скажу шчыра, зусім не падабаюцца... Але я памятаю, як ён прыгожа спяваў у школе. Перш за ўсё, ён любіў польскія песні, але спяваў, таксама, беларускія і расейскія. Памятаю ягоную песню «Плещут холодные волны» ці беларускую «Гандзя-птушка,» – гаворыць Яніна Паўлюкевіч.

Надзвычайную музыкальнасць адзначаюць усе, хто сутыкаўся з Чэславам Выджыцкім. Таму ніхто не здзівіла, калі ён вырашыў працягнуць навучанне ў Гарадзенскім музычна-педагагічным вучылішчы.

Па ўспамінах кіраўніка дзіцячага ансамбля «Grodzienskie slowiki» Анджэя Бінерта, які там вучыўся ў гэтыя часы, Чэслаў Выджыцкі меў праблемы з агульнаадукацыйнымі прадметамі. Ён пастаянна атрымліваў «двойкі», але адначасова настаўнікі адзначалі яго музычныя здольнасці. Аднак тое, што не тычылася музыкі, яго абсалютна не цікавіла.

– Там, у педвучылішчы, увесь час ён чуў пра партыю, пра Маркса, Леніна... А гэтага ён не любіў. Ён быў веруючым хлопцам. Таму і не вытрымаў. Я не памятаю, каб адлічэнне з вучылішча стала для яго трагедыяй, – успамінае Тэрэза Аксіловіч.

***«Дзіўны гэты свет,***
***У якім дагэтуль столькі зла.***
***Дзіўна, што на працягу***
***столькіх гадоў***
***З пагардаю ставіцца***
***чалавек да чалавека...***
***Людзі злым словам***
***забіваюць адзін***
***аднаго нібыта нажом.***
***Аднак я моцна веру, што***
***Добрых людзей больш***
***і дзякуючы ім***
***Ніколі не загіне***
***гэты свет...»***
**Чэслаў Нёман**

### Патаемнае вяселле

Вярнуўшыся ў родныя Васілішкі, Чэслаў Выджыцкі працягнуў вучобу ў сярэдняй школе. Тут ён сустрэў і сваё першае каханне. Маладзенькая прыгажуня Марыся Клаўзунік вучылася ў адным класе з Тэрэзай Аксіловіч і была на два гады маладзейшая за Чэслава.

– Прыгожая і вельмі добра выхаваная была дзяўчынка. Чэсь ў яе так закахаўся, што нічога іншага ў яго ў галаве не было, – успамінае яна. Але бацькам захапленне сына не прыйшлося па душы.

– Бацька яго нармальна ставіўся да Марысі, але маці яе не любіла, – гаворыць Яніна Паўлюкевіч. Аднак, для 19-гадовага юнака гэта не стала перашкодай. Невядома, чым бы скончылася гэта маладзевае захапленне, але распачалася «дадатковая рэпатрыяцыя». Быў 1958 год і польскі лідар Веслаў Гамулка дабіваўся ад савецкага ўрада магчымасці вяртання палякаў, раскіданых па тэрыторыі СССР у Польскую Народную Рэспубліку.

Сям'я Выджыцкіх схапілася за гэтую, як потым аказалася, апошнюю магчымасць вярнуцца ў Польшчу. Антон Выджыцкі тлумачыў свой ад'езд клопатам пра лёс дзяцей, якія ў Польшчы будуць мець больш шанцаў «выбіцца ў людзі». Падрыхтоўка да ад'езду ішла вельмі дынамічна. Чэслаў, нават, не стаў здаваць экзамены на атэстат сталасці. У нервовых зборах ён і прыняў рашэнне ажаніцца з Марысяй без дазволу бацькоў.

– Чэсё толькі мне адной сказаў пра шлюб. Кажа: «Тэрэзка, я жанюся, ты толькі маме нічога не кажы, я ж табе давяраю». Падмануць яго я не магла, таму нічога бацькам не сказала. Я была адзінай са сваякоў на шлюбе, – уздыхае Тэрэза Аксіловіч.

Шлюб быў зарэгістраваны ў Васілішкаўскім сельсавеце напярэдадні ад'езда Выджыцкіх у Польшчу. Пасля першай брачнай ночы Чэслаў ледзь паспеў у час вярнуцца.

– Ужо машына стаіць, на яе мэблю грузяць, а Чэслава няма... Тут бачым, ён на матацыкле нясецца... Ледзь-ледзь паспеў, – успамінае Антон Маркевіч.

Чэслаў паехаў у Польшчу, а маладая жонка засталася ў Васілішках давучвацца.

Праз год Марыся Выджыцкая па запрашэнню Чэслава з'ехала ў Польшчу і ў Гданьску яны пабраліся касцельным шлюбам. Там жа Чэслаў Выджыцкі скончыў музычную школу. Тут пачалася яго галавакружная кар'ера, у выніку якой, Чэслаў Выджыцкі назаўсёды стаў Чэславам Нёманам.

### Back in USSR

У 1979 годзе Чэслаў Нёман наведаў з гастролямі СССР. Былі канцэрты ў Вільне, Ерэване, Менску...

– З Ерэвана ён патэлефанаваў у Васілішкі да свайго сябра Збышака Мухляды. І запрасіў яго, сваіх сяброў і ўсіх настаўнікаў на канцэрт у Вільню. Але, на жаль, у школе якраз пачалася праверка і шмат хто не змог прыехаць. Але я, разам са Збышкам і яшчэ некалькімі сябрамі, паехала. Прыходзім на канцэрт, а нам кажуць, прабачце, месцаў няма. Пачалі разбірацца, а праз некалькі хвілінаў высветлілася, што для нас цэлы першы рад зарэзерваваны, – усміхаецца Яніна Паўлюкевіч.

Пасля гэтага канцэрту Чэслаў Нёман наведаў Старыя Васілішкі. Тут яго сустракалі, як сапраўднага героя.

– Старыя бабулі, якія памяталі яго як малога хлопца, спецыяльна прыходзілі з ім прывітацца. Між сабою пытаюцца: «Ты з ім цалавалася? Не? Ну дык схадзі». А ўсё таму, што ён усіх абдымаў і цалаваў, – успамінае Антон Маркевіч.

Калі зайшоў у хату да Тэрэзы Аксіловіч, першае, што ён папрасіў, гэта былі бліны з печы.

– На газе, як не спрабуй, а так, як у печы, не зробіш. Потым Чэсё ў сваім варшаўскім доме зрабіў сабе такую печ, – успамінае яна.

Нягледзячы на ўдалыя канцэрты і сардэчны прыём землякоў, СССР так і застанецца для Чэслава Нёмана суцэльным кашмарам. Нават у 2000 годзе, адказваючы журналістам на пытанне, чаго ён больш за ўсё баіцца, Нёман заявіў:

– Таго, што я ізноў малады і жыву ў СССР... Калі б я не з'ехаў, а мне тады было 19 гадоў і пагражала служба ў савецкім войску, я б, напэўна, знік у нейкім нецікавым месцы неабдымнай Расеі.

Вяскоўцы памятаюць, што падчас свайго візіту, Чэслаў Нёман здымаў сваю хату і ваколіцы на відэа, але амаль адразу разбіў касету. Па словах сяброў Нёмана, яго балюча ўразіла разбуранасць і занядбанасць родных мясцінаў. Больш ён ніколі не вяртаўся на радзіму.

### Дзіўны гэты свет

17 студзеня 2004 года пасля доўгай хваробы Чэслаў Нёман памёр. Рак, які раней забіў яго бацьку, цяпер забраў і сына.

– Я і так ад жыцця атрымаў зашмат... Мае мары пра шчасце споўніліся, – сказаў Нёман у адным з апошніх інтэрв'ю.

– Пра яго смерць я даведалася ў гэты самы дзень. Муж зайшоў у хату і кажа: «Тэрэза, я зараз табе нешта скажу, але паабяцай, што не будзеш нервавацца... Чэслаў памёр». У мяне так сэрца схапіла... Я і сёння не магу супакоіцца... Такі чалавек быў,.. – праз слёзы ўздыхае Тэрэза Аксіловіч.

23 студзеня на памінальную імшу ў касцёл святога Пятра сабраліся амаль усе жыхары Старых Васілішак. У вёсцы памятаюць і ганарацца сваім славутым земляком... А ў Васілішкаўскай сярэдняй школе, дзе калісьці вучыўся Чэслаў Выджыцкі, сёння дзейнічае філія Астрынsocкай музычнай школы.

– У нас больш вучняў займаецца музыкай, чым у Астрыне, – з гонарам кажа дырэктар **Іван Скорб**.

Маленькіх землякоў Чэслава Нёмана таксама здзіўляе навакольны свет.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ**

# Сабачы тэрор

**З фактамі «тэлефоннага тэрарызму» ў дачыненні да рэдакцыі гарадзенскай газеты «Біржа інфармацыі» разбіраецца гарадзенская міліцыя.**

У рэдакцыю двойчы патэлефанаваў невядомы. Ён прадставіўся «сабакам Рэксам». Канкрэтных пагрозаў «сабака Рэкс» не выказаў, але ківаў на лёс зніклых беларускіх палітыкаў і прапанаваў журналістам газеты «быць разумнымі». Супрацоўнікі «Біржы» перакананыя, што «дзіўныя» тэлефанаванні – гэта спроба «дэстабілізаваць абстаноўку ў рэдакцыі».

Гэта ўжо не першы факт тэлефоннай атакі на газету. Раней, яшчэ 12-га снежня мінулага году ў рэдакцыю газеты патэлефанаваў чалавек, які прадставіўся Сямёнам Львовічам Соркіным, супрацоўнікам рэчавага рынку «Карона». Рэдактарка сацыяльнага аддзела газеты Наталля Макушына здолела запісаць размову на дыктафон. Па словах Наталлі, «гэты чалавек абвінаваціў «Біржу інфармацыі» у зрыве пачатка працы «Кароны»:

**Наталля Макушына**

*– Ён палічыў, што нашы публікацыі – гэта замоўленая канкурэнтамі акцыя «чорнага піара». Прыгразіў закрыццём газеты, маўляў, яна перашкаджае развіццю малога бізнеса. Сказаў, што мне і рэдактарцы газеты Алене Раўбецкай трэба «на коленях приползти», каб папрасіць прабачэння ў адміністрацыі «Кароны».*

Разбіральніцтва па факце тэлефанавання правяла пракуратура Ленінскага раёна Гродна.

У адказе, атрыманым рэдакцыяй газеты, пракуратура прызнала, што «некарэктныя» выказванні, якімі карыстаўся ў размове Сямён Соркін «супярэчаць патрабаванням заканадаўства, што рэгулюе прафесійную дзейнасць журналістаў». Калі гэты «тэлефонны тэрарыст» ізноў задумае павучыць журналістаў працаваць, ён «можа быць прыцягнуты да адказнасці ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку».

Рэдакцыя «БІ» звярнулася ў Ленінскі РАУС г. Гродна з просьбай правесці расследванне ўваходзячых тэлефанаванняў і высветліць, хто стаіць за спробамі ціска на журналістаў газеты.

*– У мяне ёсць перакананне, што аўтары ўсіх гэтых дзіўных тэлефанаванняў адчуваюць, што мы ведаем значна больш, чым падаем у газеце,* – лічыць Наталля Макушына. – *Нядаўна ў рэдакцыю поштай сталі прыходзіць яшчэ больш дзіўныя лісты, дзе нас ізноў заклікаюць быць «разумнымі». Відавочна, гэта ціск з мэтай, каб мы не лезлі ў пэўныя важныя тэмы. Запалохаць нас не атрымаецца.*

**Павал МАЖЭЙКА**

### Каментар ДНЯ:

■ **Міхаіл Пастухоў**, кіраўнік Юрыдычнага цэнтра абароны СМІ пры ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»:

**– Выпадкі, падобныя да ціску на журналістаў «Біржы інфармацыі» становяцца штодзённай практыкай беларускай незалежнай журналістыкі. На шчасце, гэтыя пагрозы не носяць пакуль рэальнага характару. Улада аказвае моцнае псіхалагічнае ўздзеянне на тыя выданні, якія сёння, нягледзячы на ўсемагчымы ціск, працягваюць выходзіць і ствараць рэальную канкурэнцыю дзяржаўным газетам. Падобныя факты павінны мець самы шырокі розгалас.**

### Даведка ДНЯ:

Ананімныя тэлефонныя пагрозы атрымала ў сярэдзіне студзеня бягучага года карэспандэнтка БДГ па Гомельскай вобласці Ірына Макавецкая. Уночы, на працягу гадзіны, ёй дахаты некалькі разоў тэлефанаваў мужчына, які назваўся «прадстаўніком беларускага народа» і патрабаваў, каб Ірына перастала займацца журналістыкай, пагражаючы, калі адмовіцца, «пахаваць» яе. Журналістцы ўдалося зрабіць запіс аднаго з тэлефанаванняў. Невядомы абвінавачваў Ірыну ў «нелюбові да прэзідэнта і беларускага народу». Міліцыя ўстанавіла асобу «тэрарыста»: ім аказаўся 25-гадовы супрацоўнік Гомельскага тэлерадыёаб'яднання Вячаслаў Булкін. Ён быў прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці за «дробнае хуліганства» і звольнены з раённага тэлебачання па ўласным жаданні.

### Нарабілася...

**Лідскі** пяцікласнік у суботу сарваў дыскатэку ў СШ№5. Вучань патэлефанаваў па нумару «02» і сіплым голасам паведаміў, што ў школе знаходзіцца выбуховае прыстасаванне. Танцы тэрмінова былі спынены, школяры і настаўнікі эвакуяваны. «Мінёра» вылічылі ў той жа вечар. Ягоным бацькам прыйдзецца сплаціць «кругленькую суму» штрафа.

■

**Амаль** дзве тысячы залатых пярсцёнкаў і ланцужкоў агульнай вагой чатыры кілаграмы затрымалі мытнікі з «Брузгоў» у жыхара Гарадзеншчыны. Ювелірныя вырабы парушальнік спрабаваў правесці праз беларуска-польскую мяжу ў абшыўцы багажніка сваёй машыны «Аўдзі». Золата ацэнена ў 84,5 мільёнаў рублёў. Усяго з пачатку года гарадзенскія мытнікі сканфіскавалі кантрабанды на 600 мільёнаў.

■

**Сем** аўтаўладальнікаў з мікраёна «Дзевятоўка» у суботнюю раніцу не знайшлі нумарныя знакі на сваіх машынах. Крадзеныя нумары, як правіла, выкарыстоўваюць махляры, каб не плаціць мытныя пошліны пры перагонцы аўтамабіляў у Беларусь. Пара нумарных знакаў на «чорным рынку» каштуе каля 10 даляраў.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ**

## «День» змагаецца за вас

# Справа № 1: «Працоўная кніжка»

***Амаль тры гады фірма, якую кантралюе старшыня славутага СВК «Кастрычнік» Віктар Крамко, адмаўляецца выдаць звольненаму працаўніку ягоную працоўную кніжку.***

**На працягу двух месяцаў з моманту, калі па просьбе нашых чытачоў Анатоля Іванова, а, таксама, яго сябра і прававога дарадцы Уладзіміра Ўдалых, мы пачалі цікавіцца гэтай справай, у іх барацьбе адбыліся станоўчыя зрухі. Пасля паразы ў судзе першай інстанцыі, Анатоль Іваноў змог дабіцца справядлівасці ў абласным судзе. Аднак, былы наймальнік Іванова не спяшаецца выконваць рашэнне суда. Чаму? Можа не верыць у сваю паразу, бо дагэтуль правы звольненага працаўніка не прызнавала нават пракуратура.**



Паважаныя чытачы!
Калі Вы сутыкнуліся са складанай праблемай – тэлефануйце па нумары **72-29-96** альбо дасылайце электронны ліст на e-mail: **za_vas@tut.by**
**Мы паспрабуем Вам дапамагчы.**

Звальненне Анатоля Іванова з пасады дырэктара сумеснага беларуска-нямецкага прадпрыемства «Экалагічныя праекты», акцыянерам якога з'яўляецца СВК «Кастрычнік», адбылося 13 красавіка 2001 года. Рашэнне прымалася без удзелу звольненага і пры не да канца высветленых абставінах (мы маем копіі двух пратаколаў паседжання, у якіх пазначаныя розныя прычыны звальнення). Пасля гэтага, на працягу некалькіх месяцаў, новае кіраўніцтва СП адмаўлялася прадставіць экс-дырэктару дакументы, якія тычацца абставінаў звальнення. Урэшце, яму катэгарычна адмовілі ў праве на атрыманне працоўнай кніжкі, якая, згодна закону, павінна быць выдадзена ў дзень звальнення.

Пра парушэнне правоў грамадзяніна пракуратуры стала вядома ўжо больш як паўгады таму. Аднак, перад фірмай, якую кантралюе «гаспадар» Квасоўкі, супрацоўнікі пракуратуры аказаліся бездапаможнымі.

*-Адзінае, што можна назваць спробай разабрацца ў сітуацыі, гэта выклік новага дырэктара «Экалагічных праектаў» на размову да пракурора Гарадзенскага раёна – Уладзіміра Клішына,* – распавядае Анатоль Іваноў. – *Пасля гэтага мяне праінфармавалі: «падчас размовы ў пракуратуры раёна дырэктар СП «Экалагічныя праекты» Нічыпар А. В. растлумачыў, што калі Вы звернецеся на прадпрыемства з заявай на афармленне і выдачу Вам працоўнай кніжкі, то працоўная кніжка будзе афармлена і выдадзена Вам тэрмінова».*

Цяжка сказаць, хто каго прымаў за дурня падчас той размовы, але на зварот Іванова (згодна з рэкамендацыяй пракурора!) аб афармленні і выдачы працоўнай кніжкі, дырэктар Нічыпар адказаў адмовай, спаслаўшыся на тое, што «паводле закона я не павінен Вам ніякай працоўнай кніжкі...».

Сумняваючыся ў магчымасцях раённага пракурора, наступны ліст спадар Іваноў накіраваў у пракуратуру вобласці. Адказ уразіў... Абласныя пракуроры, наогул, выказалі сумненне, адносна самога факту нявыдачы заяўніку працоўнай кніжкі. Паўторны ж зварот, ужо на імя абласнога пракурора Васіля Літвінава, пацвердзіў найгоршыя спадзяванні Анатоля Іванова. «Паколькі не маецца доказаў атрымання ці неатрымання Вамі працоўнай кніжкі, то паміж Вамі і наймальнікам мае месца працоўная спрэчка», – адказаў ад імя свайго шэфа намеснік абласнога пракурора Яўген Труцько і параіў звятацца ў суд, таму што «падстаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання няма».

Менавіта на гэтым этапе змагання чытача за права на працоўную кніжку, справай зацікавіліся рэпарцёры «Дня» і накіравалі адмысловы запыт на імя абласнога пракурора. Нягледзячы на тое, што адказ быў вельмі неканкрэтны, мы зразумелі логіку, якой часам кіруецца пракуратура, калі нехта з грамадзян звяртаецца да яе, каб абараніць свае правы.

Дзяржаўныя юрысты – цалкам сур'ёзна – апраўдвалі нявыдачу працоўнай кніжкі, напрыклад, тым, што «ў сваёй заяве (аб звальненні – Рэд.) Іваноў не ставіў пытанне перад сходам удзельнікаў прадпрыемства, да кампетэнцыі якіх належыць прызначэнне і звальненне дырэктара, аб афармленні і выдачы яму працоўнай кніжкі». Патлумачым, кожны студэнт юрфака (калі толькі ён не здае экзамены за хабар) ведае, што закон безальтэрнатыўна накладае адказнасць за своечасовую (у дзень звальнення) выдачу працоўнай кніжкі не на працаўніка, а на наймальніка. Таму спадар Іваноў не павінен быў ставіць гэтае пытанне. Больш за тое, ён папярэджваў прадстаўніка СП ад нямецкага боку пра неабходнасць аформіць працоўную кніжку. Немец пацвердзіў гэты факт падчас допыту ў Ленінскім раённым судзе.

Пракуратура ж, якая спасылаецца ў сваім адказе «Дню» на рашэнне гэтага суда, узгаданы факт, чамусьці не заўважае. Затое, абсалютна безкрытычна падыходзіць да кампетэнтнасці першай інстанцыі беларускай Феміды. «Судом прызнана, што Іваноў А. В. як наймальнік сам вінаваты ў тым, што не аформіў на сябе працоўную кніжку і за гэта, акрамя яго, ніхто не можа несці адказнасці», – цытуе пракуратура абсалютна непісьменны, ў прававым плане, фрагмент рашэння Ленінскага суда. Нават дылетанту відавочна, што для дырэктара Іванова, наймальнікамі з'яўляліся заснавальнікі СП «Экалагічныя праекты», а не ён сам. Гэта па-першае. Па-другое, цытаванае пракуратурай рашэнне суда на той момант не з'яўлялася правамоцным. Таму спасылацца на яго было, мякка кажучы, некарэктна. Гэта і пацвердзіла 17 снежня калегія абласнога суда. Выходзячы з таго, што закон не прадугледжвае іншага выйсця з сітуацыі, абласны суд пастанавіў абавязаць СП «Экалагічныя праекты» «выдаць Іванову А. В. працоўную кніжку ўстаноўленага ўзору з запісам пра ягоную працу на гэтым прадпрыемстве згодна з устаноўленым парадкам вядзення працоўных кніжак работнікаў».

Здавалася б – «хэппі энд»? Не зусім. Вось ужо другі месяц Анатоль Іваноў не бачыць ніякіх спробаў з боку СП «Экалагічныя праекты» выканаць рашэнне суда. І гэта пры тым, што за кожны дзень адтэрміноўкі выдачы працоўнай кніжкі, прадпрыемства, паводле закона, павінна будзе кампенсаваць Іванову вымушаны прагул у памеры ягонага сярэдняга дырэктарскага заробку. На сённяшні дзень гэтая сума ўжо значна перавышае 10 мільёнаў рублёў.

На што ж разлічвае СП «Экалагічныя праекты»? Можа, на нерастортлівасць службы судовых выканаўцаў? А, можа, на дапамогу надзвычай лаяльнай да квасоўскай фірмы пракуратуры, якая не заўважае ў гаспадарчай дзейнасці прадпрыемства шмат дзіўных фактаў, якія прымушаюць задумацца пра тое, для каго ў нашай краіне «не пісаны закон». Але гэта ўжо тэма для іншага журналісцкага расследвання, якое праводзіць «День».

Рэпарцёрскую жа справу № 1: «Працоўная кніжка», мы спадзяемся закрыць неўзабаве, калі даведаемся, што СП «Экалагічныя праекты» выдала Анатолю Іванову працоўны дакумент і кампенсавала вымушаны трохгадовы прагул.

**Рэпарцёры «Дня»**

# 11 «Б» клас школы №15

**Паважаныя чытачы! Кожны тыдзень на гэтай старонцы ў межах акцыі «Наша будучыня» мы будзем знаёміць Вас з выпускнымі класамі сярэдніх школ нашага горада. Галоўнай мэтай акцыі з'яўляецца абвяржэнне стэрэатыпнага ўспрыняцця маладога пакалення як абыякавага, ні да чаго не здольнага і пазбаўленага жыццёвых арыенціраў.**

**Калі Вы – вучань выпускнога класа і хочаце, каб мы расказалі пра Ваш клас, звяртайцеся да нас па тэлефоне 72-29-96.**



**_Верхні рад (з лева на права):_ Сяргей Дайлідка, Сяргей Кузьменка, Дзяніс Цярэшка, Марат Алхасаў, Уладзімір Якуба, Дзмітрый Лукашэвіч, Андрэй Садоўскі, Яўген Астаповіч. _Ніжні рад:_ Марта Кунец, Наталля Котава, Наталля Гецманчук, Вераніка Яцэль, Анастасія Мірон, Алена Даноўская, Ірына Кашлявік.**

### Марта КУНЕЦ

Хоча стаць урачом-гінеколагам, каб дапамагаць жанчынам і дзяўчынам выяўляць і лячыць хваробы. У вольны ад заняткаў час, Марта займаецца танцамі і слухае музыку. *«Калі я танцую – я зыбываюся на ўсё, цалкам расслабляюся і адпачываю»*, – прызнаецца яна. Марта не мае куміраў, таму што цэніць уласную, непаўторную індывідуальнасць.

### Наталля КОТАВА

З дзяцінства марыць стаць урачом-хірургам, каб ратаваць чалавечае жыццё. Наталля – дзяўчына мэтанакіраваная і аднначасова азартная. Таму, вольны час яна прысвячае актыўным відам спорту: валейболу і баскетболу. На спартовую пляцоўку Наталля выходзіць настроеная толькі на перамогу. Уменню дасягаць пастаўленыя мэты і змагацца з цяжкасцямі дзяўчына вучыцца ў сваёй мамы, пра якую натхнёна гаворыць: *«Уражвае яе сіла духу. Адной выхоўваць дваіх дзяцей (мяне і брата) – гэта сапраўдны гераізм. Асабліва ў наш цяжкі час»*.

### Наталля ГЕЦМАНЧУК

Наталля – будучы псіхолаг. Рысы характару, якія вызначылі яе прафесійны выбар – гэта таварыскасць ды імкненне дапамагаць людзям. Ужо сёння гэтыя свае якасці Наталля выкарыстоўвае ў адносінах з сябрамі. Лепш за ўсё, калі гэта адбываецца ў вясёлай кампаніі, дзе можна паслухаць добрую музыку і патанцаваць. У будучым Наталля хоча быць падобнай на сваіх бацькоў, якія «шмат чаго дасягнулі ў жыцці».

### Вераніка ЯЦЭЛЬ

Уладальнікам буйных фірмаў рэкамендуем звярнуць увагу на будучага офіс-мэнеджэра – Вераніку. Свой выбар яна абгрунтоўвае тым, што гэта прафесія цікавая і прэстыжная. Улічваючы тое, што Вераніка любіць добрую музыку і захапляецца вырошчваннем кветак, такі супрацоўнік зможа ператварыць Ваш офіс у квітнеючы сад. У людзях Вераніка цэніць мэтанакіраванасць і ўменне дасягаць пастаўленай мэты без чужой дапамогі і пратэкцыі. Менавіта такім чалавекам з'яўляецца яе мама. *«Я хачу быць такой, як яна»*, – проста гаворыць Вераніка.

### Анастасія МІРОН

У чым нельга папракнуць Анастасію, дык гэта ў бестурботнасці і авантурызме. Справа ў тым, што гэтыя якасці з'яўляюцца ворагамі любога страхавога агента, а Анастасія хоча зрабіць кар'еру менавіта ў гэтай галіне. Дасягнуць поспеху і стаць па-сапраўднаму дзелавой жанчынай ёй дапаможа захапленне кампутарамі і кнігамі. За чытаннем дзяўчына праводзіць большую частку свайго вольнага часу. Прыкладам для Анастасіі з'яўляецца яе мама, таму што *«яна мае вельмі рэдкія якасці характару»*.

### Алена ДАНОЎСКАЯ

Алена мае ўсе шанцы рэалізаваць прынцып: займацца любімай справай і атрымліваць за гэта грошы. Справа ў тым, што яна захапляецца кампутарамі і з імі звязвае сваю прафесійную будучыню. Яна плануе стаць праграмістам. Прадметам гонару Алены з'яўляецца сабраная ёю калекцыя каляндарыкаў, а прыкладам для пераймання – вядомая спявачка Ліка Ялінская. *Яна вельмі мэтанакіраваны чалавек і шмат чаго дабілася ў жыцці»*, – характэрызуе свайго куміра Алена.

### Ірына КАШЛЯВІК

Ірына хоча прыносіць карысць людзям – яна марыць стаць доктарам. У вольны ад заняткаў час Ірына шмат чытае, а ў хвіліны натхнення, нават, піша вершы. Спадзяемся, што будучая занятасць студэнткі-медыка не адаб'е ў Ірыны ахвоту займацца літаратурнай творчасцю, у якой будуць ухваленыя лепшыя чалавечыя якасці. Дарэчы, Ірына мяркуе, што такія ж якасці маюць яе мама і бабуля, на якіх дзяўчына хоча быць падобнай.

### Сяргей ДАЙЛІДКА

Калі Сяргей не прыдумае нешта іншае, то выбар яго прафесіі вызначыцца праз пачатае яшчэ ў раннім дзяцінстве захапленне кампутарамі. Гэта значыць – ён стане праграмістам. Яшчэ адно захапленне Сяргея, якое магло б вызначыць ягоную прафесійную будучыню – сур'ёзныя заняткі баскетболам. Зрэшты, сам Сяргей гаворыць, што пытанне выбару прафесіі застаецца пакуль што адкрытым.

### Сяргей КУЗЬМЕНКА

Будучы пракурор, адвакат, суддзя, юрысконсульт, а, можа быць, – афіцэр міліцыі ці супрацоўнік мытні. Усе гэтыя спецыяльнасці будуць даступныя Сяргею, калі ён ажыццявіць сваю мару і стане юрыстам. Пакуль жа, у вольны ад заняткаў час, Сяргей спасцігае таямніцы тайландскага бокса, валоданне якім можа быць дарэчы будучаму стражу законнасці. Што тычыцца куміраў, то Сяргей не хацеў бы быць падобным на некага.

### Дзяніс ЦЯРЭШКА

З выбарам прафесіі Дзяніс пакуль канчаткова не вызначыўся, хаця і схіляецца да думкі стаць эканамістам. Захапленне музыкай і... рыбнай лоўляй – яго любімае баўленне часу. Сімпатыю да рыбалкі Дзяніс пераняў ад бацькі, і, менавіта, тата з'яўляецца найбольш аўтарытэтным чалавекам для яго. Уменне дасягаць пастаўленую мэту – гэтую якасць Дзяніс хоча пераняць ад свайго бацькі.

### Марат АЛХАСАЎ

Не выключана, што ўжо праз год Марат будзе студэнтам медычнага універсітэта. Магчыма, дапаможа яму ў гэтым чалавек, які *«здолеў дасягнуць пастаўленых мэтаў»*. Гэтым чалавекам з'яўляецца бацька Марата, і сын хоча быць падобным менавіта на яго. У вольны час Марат слухае сучасную музыку і любіць лавіць рыбу.

### Уладзімір ЯКУБА

Пра Уладзіміра можна смела сказаць, што з тэхнікай ён на «ты». Менавіта жаданне і ўменне разбірацца ў аўтамабілях вызначыла выбар ягонай будучай прафесіі – шафёр. У вольны час ён наведвае секцыю тайландскага бокса, а калі надарыцца паехаць за горад – не ўпусціць магчымасці парыбачыць. Куміраў Уладзімір не прызнае – ён хоча заўсёды заставацца самім сабой.

### Дзмітрый ЛУКАШЭВІЧ

Дзмітрый – будучы інжынер, хоць гэты выбар, па яго ўласнаму прызнанню, яшчэ можа змяніцца. Вольны час Дзмітрый праводзіць за кампутарам, таму цалкам магчыма, што гэтае захапленне зможа паўплываць на канчатковы выбар прафесіі. Што тычыцца куміраў – тут Дзмітрый катэгарычны: *«Я лічу, што чалавек не павінен імкнуцца быць на каго-небудзь падобным»*.

### Андрэй САДОЎСКІ

Найбольш перспектыўная і здольная прыносіць добры прыбытак прафесія – гэта, на думку Андрэя, прафесія інжынера-праграміста. Менавіта таму ён не мае сумненняў у выбары свайго шляху ў жыцці. Дзеля ўласнага гарманічнага развіцця разумовую працу Андрэй спалучае з заняткамі футболам ды іншымі відамі спорту. Ідэал асобы, да якога імкнецца гэты хлопец, павінен спалучаць у сабе ўсе добрыя чалавечыя якасці.

### Яўген АСТАПОВІЧ

Прадпрымальнасць, разважлівасць і кемлівасць – ягоныя якасці. Калі Яўген зможа развіць у сабе гэтыя рысы, тады быць яму паважаным і паспяховым бізнесменам. А калі з ненармаванага працоўнага дня прадпрымальніка яму ўдасца «выкраіць» гадзіну-другую вольнага часу, то ён зможа прысвяціць яго сваім сённяшнім захапленням: кампутарным гульням, футболу і валейболу. У жыцці Яўген хоча быць падобным на папулярнага актора Марка Дакаскаса.

**Прапануем прыняць удзел у галасаванні на лепшы выпускны клас Гродна. Дзеля гэтага – запоўніце купон і дашліце яго на адрас: 230025 г. Гродна, вул. Карла Маркса, 11 (2-гі паверх).**

## КУПОН-ЛАТАРЭЯ

## Акцыя «НАША БУДУЧЫНЯ»

Мне найбольш спадабаўся клас____ школы ______

Імя ____________ Прозвішча ________________

Мой кантактны тэл. ____________________

Адрас: ______________________________

**Штомесяц сярод атрыманых купонаў мы будзем разыгрываць тры паўгадовыя падпіскі на нашу газету. Па выніках галасавання напярэдадні выпускных вечароў будзе вызначаны найлепшы клас горада, якому «День» прысвяціць галоўную тэму аднаго з чэрвеньскіх нумароў.**

**Давайце знаёміцца з нашай будучыняй РАЗАМ!**

# Каложу прывезлі з сабою

**«Сучаснае мастацтва Гарадзеншчыны» – назва выставы, што распачалася 27 студзеня ў галоўнай выставачнай зале Беларусі – Нацыянальным палацы мастацтваў.**

Сімвалам выставы гарадзенцаў у сталіцы можна лічыць вялікае палатно з вывай часткі сцяны Каложскай царквы.

– *Аўтары гэтага твора не я і не мае сябры – Віка Загнетава і Саша Сільвановіч, – якія дапамагалі ў яго ным пайстанні,* – гаворыць акадэмік жывапісу **Сяргей Грыневіч**. – *Аўтар той, хто збудаваў Каложу. І вось у Гродне ёсць гэты цуд, а ў Менску няма. Таму мы і прывезлі часцінку Каложы з сабою...*

Падобнай грандыёзнай акцыі ў Менску гарадзенскія майстры пэндзля і алоўка не праводзілі з 1996 года.

– *Зараз, хто з прафесійных мастакоў хоча, той і выстаўляецца ў Менску, ніякіх абмежаванняў няма,* – тлумачыць старшыня Гарадзенскай абласной суполкі Саюза беларускіх мастакоў, акадэмік скульптуры **Уладзімір Панцялееў**, – *і, натуральна, што пасля 1996 года гарадзенцы альбо паасобку, альбо цэлымі групамі шмат разоў экспанавалі свае працы не толькі ў сталіцы Беларусі, але і ў краінах блізкага і далёкага замежжа.*

Уладзімір Панцялееў не пагаджаецца з тым, што Менск выказвае рэдкую ўвагу да творчасці гарадзенскіх майстроў. Па яго ных словах, выстава «Сучаснае мастацтва Гарадзеншчыны» – плянавая, своеасаблівая творчая справаздача Наднёманскага краю. Падобныя экспазіцыі рыхтуе кожная вобласць краіны.



**Акадэмік скульптуры Уладзімір Панцялееў**

У выставе, акрамя сарака сяброў абласной філіі Саюза беларускіх мастакоў, удзельнічаюць і маладыя аўтары: Сяргей Стома, Яўгенія Станіна і Вадзім Лагун. Кожны аўтар прадставіў на экспазіцыі ў Менску ад шасці да дзесяці сваіх прац. Прысутнічаюць усе жанры, характэрныя для сучаснага мастацтва Гарадзеншчыны: жывапіс, графіка, скульптура, дэкаратыўна-ужытковае мастацтва.

Акрамя гарадзенцаў, у Нацыянальным палацы мастацтваў выставілі свае працы прафесійныя творцы з Ваўкавыска, Ліды, Навагрудка і Бярозаўкі. Экспазіцыю ў Менску можна будзе паглядзець да дзевятага лютага.

**Вацлаў ГАЛІМСКІ**

***Перадузяты агляд прэсы***

# Трымайце тэрмометры ў футлярах

***«Разумных бараноў наогул жа нямнога,***
***А гэты – дык дурней дурнога...»***

***Кандрат КРАПІВА***

У **«Бирже информации»** арыгінальны рэдакцыйны матэрыял заўсёды лёгка адрозніць ад запазычанага тэксту ці перадрукоўкі. Фірмовым почыркам аўтараў газеты з'яўляецца тое, што яны пры кожнай аказіі знаёмяць чытача з... банальнымі ісцінамі. Вось і на мінулым тыдні мы маглі прачытаць у «БИ»:

*«Надо отметить, что люди поразному пытаются,* ***наверное,*** *не только говорить, но и жить».*

Не выключана, што ў адным з бліжэйшых нумароў, зразумела, пасля грунтоўнага журналісцкага даследвання, «БИ» паведаміць нам, што людзі адрозніваюцца адзін ад аднаго, **магчыма,** не толькі папілярнымі лініямі на пальцах, але і кодам ДНК.

***

Калі ісціны «БИ» вызначаюцца банальнасцю, то знаходкі **«Вечернего Гродно»** часцяком носяць прыкметы рэвалюцыйных навуковых адкрыццяў. Тыдзень таму, расказваючы пра прычыны незацвярджэння парламентам падатка на дададзеную вартасць ад абанентаў сотавай сувязі, «ВГ» паведаміў:

*«Но поскольку взимание этого налога с физических лиц* ***противоречит азам экономической науки,*** *предложение на сессии не приняли».*

Толькі дзеля пашырэння кругагляду нашага чытача, які, магчыма, аднасова чытае «ВГ», паведамім, што ў большасці еўрапейскіх краінаў, фізічныя асобы з'яўляюцца плацельшчыкамі падатка на дададзеную вартасць. У Польшчы, напрыклад, ён мае назву VAT, а многія гарадзенцы атрымлівалі зварот гэтага падатка на польскай мытні, калі вывозілі з суседняй краіны набытыя ў ёй тавары. Аднак пагадзімся з «ВГ» у тым, што **азы беларускай эканамічнай навукі** могуць моцна адрозніваца ад законаў, так званай «рынкавай гаспадаркі».

***

**«Вечерний Гродно»** не стамляецца здзіўляць нас «гуманнымі» адносінамі да чытача і ў апошнім нумары раіць:

*«Так что, уважаемые сограждане,* ***держите свои термометры под мышками.*** *Уж эти места для них вполне безопасны».*

Мы ж, шаноўныя сябры, жадаем Вам усім не хварэць і **трымаць свае тэрмометры ў футлярах.** Там ім, таксама, нічога не пагражае.



***Да сустрэчы праз тыдзень,***

**Свінтус ГРАНДЫЁЗУС**

***Тэлефоннае апытанне гарадзенцаў***

# «Цяпер будзем чытаць вашу»

**Калі нас хвалюе нейкая з'ява ці здарэнне, то, звычайна, мы хочам даведацца, што на гэты конт думаюць іншыя. Каб задаволіць сваю цікавасць, мы звяртаемся да сваякоў ці сяброў, часцяком, спрачаемся з імі. Амаль заўсёды, на нейкім этапе дыскусіі, адзін з бакоў выкарыстоўвае аргумент кшталту: «Усе (ці – большасць) так думаюць». Абвергнуць такі довад цяжка, бо на самой справе ніхто гэтых «усіх» не апытваў. А калі б нават і паспрабаваў... Да незнаёмых людзей звяртацца неяк няёмка.**




З сёняшняга ДНЯ, каб пазбавіць вас клопату, мы бярэм гэтую місію на сябе. Кожны тыдзень мы будзем знаёміць вас з вынікамі адвольнага тэлефоннага апытання 100 гарадзенцаў на тэмы, якія вы нам запрапануеце, патэлефанаваўшы ў рэдакцыю.

У першым апытанні мы задаволілі ўласную цікавасць і папрасілі землякоў назваць лепшую гарадзенскую газету.

Самай папулярнай аказалася газета «Вечерний Гродно – 22 адсоткі апытаных. Вызначальны матыў яе набыцця – жаданне заўсёды быць у курсе гарадзенскіх падзеяў. *«Вялікі выбар тэм, гарадзенскія навіны, цікавыя артыкулы»,* – так патлумачылі свой выбар прыхільнікі «ВГ».

Другое месца – «Гродзенская праўда» (18 адсоткаў). Яе чытачы – людзі пераважна ў сталым узросце, якія шмат гадоў купляюць «ГП» па звычцы. Аднак ёсць і тыя, хто матывуе свой выбар неабходнасцю атрымліваць афіцыйную інфармацыю.

Неіснуючая газета пад умоўнай назвай «Ніякая» (менавіта так адказвала частка рэспандэнтаў на пытанне рэдакцыі) займае трэцяе месца і мае 16 адсоткаў прыхільнікаў. *«Гарадзенскія газеты я не чытаю, бо ўсе яны нецікавыя»,* – адказаў адзін з гараджан. І дадаў: *«Цяпер будзем чытаць Вашу».* Дарэчы, гэтая група гарадзенцаў – сапраўдны шанец для ДНЯ.

Па-за п'едэсталам» апынулася «Биржа информации» (10 адсоткаў). Яе «канькóм» аказалася найлепшая сярод гарадзенскіх газет укладка з праграмай тэлебачання. Акрамя таго чытачы хвалілі «БИ» за *«навіны сотавай сувязі, гараскоп і анекдоты».*

«Гродненская ярмарка» і «В свободный вечер» (па 6 адсоткаў) падзялілі паміж сабой пятае месца. Абедзве газеты купляюць перш за ўсё дзеля праграмы тэлебачання.

Наяўнасць праграмы ТБ з'яўляецца вырашальнай і пры набыцці большасці гарадзенскіх газет: «Милицейский вестник», «Из рук в руки», «Аркуш», «Рекламное приложение», «От А до Я» – кожная па 4 адсоткі.

На апошнім, але ганаровым месцы (з улікам таго, што гэта не гарадзенскае выданне) апынулася «Газета Слонімская». За яе прагаласавалі двое з апытаных. Таму што «ў ёй ёсць, што пачытаць»!

***А. ПЫТАЛЬНІК***

***Дурноты нашага жыцця***

## 100 баксаў за лаяльнасць



**Не перастаю дзівіцца канфармізму айчынных дзеячаў культуры. Умеюць, халера, прыстасоўвацца і выжываць пры любой уладзе. Адчуваюць кан'юнктуру, як ніхто ў свеце. Хай сабе мастацтва й вечнае, але жыццё – такое кароткае. Раз і... квас. Таму ад жыцця трэба браць альбо ўсё магчымае, альбо хаця б тое, што даюць. Напрыклад, прэміі імя Аляксандра Дубка, якія штогод прызначае гарадзенскі аблвыканкам для дзеячаў культуры.**

Крышачку больш за 100 даляраў на асобу... Намінацый у гэтай прэміі шмат. Але ёсць такія, што выклікаюць непадробную цікавасць калегаў з Менску ці з краін блізкага замежжа. А гэта намінацыі «пісьменнік года», «мастак года», «артыст года» і «журналіст года». Кандыдатаў, яшчэ ў кастрычнікулістападзе, вылучаюць «працоўныя калектывы» – і адпаведныя паперы падаюцца ў аблвыканкам на зацвярджэнне. Узнікае натуральнае адвечнае пытанне: «А судьи КТО?» Склад журы шырокай грамадскасці невядомы. Ды гэта не істотна, бо ўсё вырашаецца загадзя, яшчэ да надыходу Новага года, а пасля падаецца як сенсацыя. Хаця, насамрэч, ніякай сенсацыі няма...

З мастакамі і артыстамі больш-менш зразумела: той акадэмік скульптуры, гэты – акадэмік графікі... А тая, за жабрацкія грашы, робіць цуды на тэатральнай сцэне, яе калега – таленавіты рэжысёр, збірае аваці пасля спектакляў. А вось шчоўкапёры – пісьменнікі і журналісты – ствараюць праблемы, бо іхная пісаніна так ці інакш звязана з ідэалогіяй ці, о, крый мяне Божа!, з ПАЛІТЫКАЙ! Натуральна, што прэмію імя Аляксандра Дубка ніколі б не далі ані Алесю Чобату за кнігу гістарычных нарысаў «Зямля св.Лукі», ані Сяргею Астраўцову за амаль 600-старонкавую таміну прозы «Цэнзарскія нажніцы», ані Данучэ Бічэль за пераклад вершаў Караля Вайтылы – Рымскага Папы Яна Паўла II. Прэміі ж даюць не столькі за мастацкія вартасці, колькі за лаяльнасць да рэжыму. Цяжка ўявіць, каб сумленне нацыі – Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў – атрымаў прэмію Прэзідэнта РБ «За духоўнае адраджэнне». Гэтаксама, як цяжка ўявіць, што Адам Міцкевіч пагадзіўся б служыць, як яго калега Аляксандр Пушкін, пры двары цара Мікалая I.

Але мясцовыя пісарчукі не Байраны і не Лермантавы, іх не натхняе рэвалюцыйная рамантыка. Абы спакойна дажыць да пенсіі. Сярод журналістаў з «Гродзенскай праўды» ды выканкамаўскіх «раёнак» прэміі імя Аляксандра Дубка можна размяркоўваць да наступнага стагоддзя.

**Юры ГУМЯНЮК**




**ДЕНЬ**

**Заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»**

Галоўны рэдактар **Мікола Маркевіч**

Рэдактар нумару **Павал Мажэйка**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выходзіць з красавіка 2001 года. Рэгістрацыйны нумар 1587 ад 5.11.2003.

**Адрас рэдакцыі:** 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.

**Адрас для лістоў:** 230025 г. Гродна, вул. К.Маркса, 11

**Тэл.:** (0152) 72-29-96, (017) 206-55-08 **E-mail:** pagonia@promedia.by

Нумар газеты надрукаваны на ФДУП «Смаленскі паліграфічны камбінат», 214020, г. Смаленск, вул. Смальянінава, 1.

Наклад 5000 паасобнікаў. Замова № 8059

Аб'ём – чатыры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Падпісаны да друку 28.01.2004 у 01.00.